# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў

10 студзеня 1996 г. серада, № 8 (22811)



❑ **Новаабраны беларускі парламент прыступіў да працы ў поўным саставе. Прыняты першыя рашэнні.**

1-я — 3-я стар.

❑ **Што адкажуць транспартнікі на павышэнне «мінімалкі»?**

1-я стар.

❑ **Надзвычайныя сітуацыі прынеслі Беларусі летась безліч бедаў. Ці будзе літасцівым да нас год 1996?**

1-я стар.

## ПЕРШЫЯ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ СЮРПРЫЗЫ — АД ТРАНСПАРТНІКАЎ

**Як і чакалася, павышэнне з 1 студзеня памеру мінімальнай зарплаты пачало паступова адбівацца на цэнах.**

Першы «сюрпрыз» паднеслі мінскія транспартнікі, якія паднялі тарыфы на праезд у гарадскім грамадскім транспарце больш чым у два разы. Па логіцы, у бліжэйшай будучыні варта было б чакаць павышэння платы за міжгароднюю перавозку пасажыраў.

Аднак, паводле слоў кіраўніка прэс-службы Беларускай чыгункі, інфармацыі аб павелічэнні кошту білетаў пакуль няма. Колькі будзе працягвацца гэтая няпэўнасць — невядома. Таму ў гэтай сітуацыі ўсім пасажырам чыгункі застаецца параіць адно: карыстацца момантам і працягваць ездзіць па «старых» тарыфах.

Нешта больш акрэсленае і менш прыемнае ўдалося даведацца ў адносінах да міжгародніх аўтобусных перавозак. Вядома, што кошт білетаў тут павысіцца прыкладна ў 1,5 раза, прычым хутчэй за ўсё — з наступнага месяца.

Нагадаем, што зараз за ўмоўны кіламетр праезду пасажыр вымушаны плаціць 240 рублёў.

**Алег БАРАЖЫНСКІ.**

# ВОЗГАЛАС

## НА ПАЧАТАК 1996 ГОДА ЗАРЭГІСТРАВАНА 131,1 ТЫСЯЧЫ БЕСПРАЦОЎНЫХ

**Гэта амаль на 30 тысяч чалавек больш, чым было зарэгістравана на 1 студзеня 1995 года.**

За мінулы год у службы занятасці насельніцтва рэспублікі звярнулася 231,5 тысячы чалавек, з іх працаўладкавана — 118,5 тысячы. Узровень беспрацоўя па стану на 1 студзеня бягучага года склаў 2,35 працэнта (у мінулым годзе гэты паказчык быў роўны 1,82 працэнта). Дапамогу па беспрацоўю за апошні месяц мінулага года атрымалі 70 тысяч 204 чалавека. Сярэдні памер яе па рэспубліцы склаў 101 тысячу 200 рублёў, хаця беспрацоўныя розных абласцей атрымалі неаднолькавыя сумы: у Брэсцкай — 89 тысяч рублёў, Гродзенскай — 99, Віцебскай — 110, Мінскай — 99,5 тысячы рублёў. Аптымістычных прагнозаў адносна становішча беспрацоўных спецыялісты Галоўнага ўпраўлення Дзяржаўнай службы занятасці насельніцтва не даюць, за адным хіба выключэннем: памер дапамогі ўзрасце ў сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ЦІ ЁСЦЬ СЯРОД ЗАТРЫМАНЫХ ЧЛЕНАЎ ЭКІПАЖА СУХАГРУЗА «ВОЛГА-1» БЕЛАРУСКІЯ ГРАМАДЗЯНЕ, ПАКУЛЬ НЕ ВЫСВЕТЛЕНА

**Як паведамілі расійскія сродкі масавай інфармацыі, у іспанскім порце Марын затрыманы сухагруз «Волга-1», які ішоў пад панамскім сцягам з буйной партыяй кантрабанднага гашышу.**

Паводле звестак іспанскага друку, службай пагранічнага кантролю порта канфіскавана 36 тон гэтага наркотыку, які вывезены з Марока і прызначаўся для продажу ў Заходняй Еўропе; падчас выгрузкі наркотыкаў арыштаваны восем членаў экіпажа, якія з'яўляюцца грамадзянамі Расіі, Украіны і Беларусі. Аднак, як паведамілі БелаПАН у Камітэце дзяржаўнай бяспекі рэспублікі, гаварыць аб дачыненні грамадзян Беларусі да гэтай справы пакуль заўчасна. КДБ накіраваў запыты ў Федэральную службу бяспекі і Міністэрства замежных спраў Расіі з просьбай удакладніць сітуацыю. Атрымаць нейкі канкрэтны адказ на іх на сённяшні дзень пакуль не ўдалося.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## У НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ ГІНУЦЬ ЛЮДЗІ

**Колькасць надзвычайных сітуацый у 1995 годзе па рэспубліцы ў параўнанні з 1994-м павялічылася з 3580 да 3697.**

Аб гэтым паведаміў на чарговай сустрэчы з журналістамі міністр РБ па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС Іван Альбінавіч Кенік. І без таго складанае эканамічнае становішча ў рэспубліцы ў 1995 годзе ўскладнілася напружанай прыроднай і тэхналагічнай абстаноўкай. На тэрыторыі рэспублікі ў гэты перыяд былі выяўлены 783 ачагі пажараў на агульнай плошчы 8825 гектараў. Агульны ўрон склаў каля 1480 мільярдаў рублёў, з іх толькі кошт паліва і аплата працы — звыш 2 мільярдаў рублёў. На працягу студзеня і лютага — на тэрыторыі Мінскай вобласці, верасня — Магілёўскай і Гомельскай моцныя і ўраганныя ветры нанеслі ўрон жывёлагадоўчым комплексам і жылым дамам на суму каля 12 мільярдаў рублёў. У выніку праліўных дажджоў у чэрвені месяцы асобныя раёны Брэсцкай вобласці былі затоплены. Урон склаў больш за 10 мільярдаў. Веснавыя замаразкі ў Брэсцкай і засуха ў вясенне-летні перыяд у Магілёўскай вобласці нанеслі ўрон каля 11,5 мільярда рублёў.

У выніку надзвычайных сітуацый толькі па Мінскай вобласці за 1995 год загінулі 273 чалавекі, больш як 400 былі траўміраваны.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ЗАРПЛАТУ ЛЮДЗІ ПАВІННЫ АТРЫМЛІВАЦЬ

**Указам Прэзідэнта Беларусі № 483 прадугледжана бясспрэчнае ўтрыманне сродкаў з наймальніка, які мае запазычанасць па выплаце заработнай платы, у памеры пражытачнага мінімуму на кожнага работніка зыходзячы з сярэдняспісачнай іх колькасці.**

З мэтай выканання вышэйзгаданага ўказа Нацыянальны банк у сваім пісьме за № 669 выклаў наступныя моманты, якімі трэба кіравацца. Па-першае, наймальнікі абавязаны прадставіць у банк копію калектыўнага дагавора або выпіску з яго, дзе вызначаны тэрміны выплаты заработнай платы. Па-другое, для атрымання сродкаў на зарплату ў памеры пражытачнага мінімуму, які паведамляецца праз друк Міністэрствам статыстыкі і Міністэрствам працы, наймальнік прадстаўляе ў банк разлік сумы сродкаў, што падлягаюць выдачы. Такі разлік павінен быць засведчаны пячаткай і подпісамі службовых асоб, якім дадзена права распараджацца рахункам, а таксама прадстаўляе плацежныя даручэнні на пералічэнне падаходнага падатку з заработнай платы, страхавых узносаў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Гэтыя плацяжы ідуць па першай групе чарговасці. Выдача сродкаў на зарплату ў памеры пражытачнага мінімуму праводзіцца па-за чаргой плацяжоў, незалежна ад таго, ці ёсць прэтэнзіі да рахунку наймальніка, у тым ліку і плацяжы ў бюджэт.

Калі ў наймальніка сродкаў на рахунку не хапае, ён у дзень выплаты зарплаты або напярэдадні прадстаўляе ў банк заяву аб браніраванні сродкаў. Браніраванне сродкаў губляе моц праз два рабочыя дні з моманту паступлення на рахунак усёй забраніраванай сумы. Заработная плата, якая перавышае памер утрымліваемай у бясспрэчным парадку, выплачваецца па 4-й групе чарговасці.

Наймальніку трэба помніць, што адказнасць за своечасовасць і правільнасць прадстаўлення разліку для атрымання зарплаты ў памеры пражытачнага мінімуму кладзецца на яго.

**Дзмітрый ЖУК.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 9 студзеня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11500 | 11700 | 7800 | 8050 | 2.30 | 2.50 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11500 | 11700 | 7800 | 8100 | 2.20 | 2.45 | |
| Белзнешэканомбанк | 11500 | 11700 | 7900 | 8150 | 2.10 | 2.40 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11580<br>4740 | 11700<br>4840 | 7900 | 8100 | 2.39 | 2.46 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11500 | 11670 | 7750 | 8050 | 2.10 | 2.48 | 067 |
| Народны банк | 11550 | 11700 | 7930 | 8050 | 2.30 | 2.42 | 238-610 |
| «Алімп» | 11620 | 11900 | 7950 | 8100 | 2.41 | 2.49 | 508-556 |
| Ф-л №1 АКБ «Алімп» | 11580 | 11750 | 7900 | 8100 | 2.35 | 2.45 | 291-646, 067 |
| ФФФ | 11480 | 11700 | 7800 | 8050 | 2.20 | 2.42 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7948.58 | | 2.47 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4661 | | 3222.71 | | 100 бел.р.39.90 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік

** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік

*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах

# ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ПРЫСТУПІЎ ДА ПРАЦЫ. ХАЙ БУДЗЕ ЯНА ПЛЁННАЙ!

## Частцы дэпутатаў не хапае прафесіяналізму і вопыту

Учора дэпутаты новага беларускага парламента праявілі зайздросную пунктуальнасць і ўвагу да свайго новага статусу, у поўным саставе з'явіўшыся на першае пасяджэнне Вярхоўнага Савета: пасля першай рэгістрацыі на табло ў Авальнай зале засвяцілася лічба 197.

Пасля кароткага ўступнага слова старшынствуючы, кіраўнік Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Аляксандр Абрамовіч даў слова для прывітання Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку. Кіраўнік выканаўчай улады засяродзіў увагу парламентарыяў на сённяшнім стане эканамічнага і палітычнага жыцця краіны і заклікаў да канструктыўнай дзейнасці. На думку А. Лукашэнкі, адным з першых пытанняў, якое патрэбна вырашыць заканадаўцам, з'яўляецца перагляд падатковага заканадаўства з мэтай змяншэння падатковага ціску на айчынных вытворцаў прадукцыі. Акрамя таго, Прэзідэнт закрануў тэму росту злачыннасці ў дзяржаве і асабліва росту карупцыі. Ён выказаў надзею, што заканатворчая дзейнасць парламента ў гэтым накірунку таксама дасць плённыя вынікі. Перад дэпутатамі з прывітальным словам выступілі таксама старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Валерый Ціхіня і прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Першы, у прыватнасці, выказаў заклапочанасць станам канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь і паабяцаў на пачатку лютага прадставіць у парламент і Прэзідэнту адпаведныя пасланні, дзе гэтая надзвычай важная праблема будзе прааналізавана больш глыбока і ўсебакова.

Далей Вярхоўны Савет перайшоў да практычнай дзейнасці: да вырашэння арганізацыйных пытанняў. Былі абраны мандатная камісія і Сакратарыят сесіі. Крыху пазней мандатная камісія, вывучыўшы матэрыялы Цэнтрвыбаркома, афіцыйна зацвердзіла паўнамоцтвы ўсіх 197 дэпутатаў.

Даволі гарачыя спрэчкі сярод дэпутацкага корпусу 9 студзеня выклікала абмеркаванне парадку асвятлення работы сесіі парламента сродкамі масавай інфармацыі, і ў прыватнасці Беларускай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй. Дэпутаты паспрабавалі вынесці на галасаванне праект Пастановы Вярхоўнага Савета, які б рэгламентаваў дзейнасць не толькі дзяржаўных газет, агенцтва БЕЛТА, але і ТРК у адносінах да работы заканадаўцаў. Гэтая ініцыятыва атрымала негатыўную ацэнку ў Прэзідэнта, які прапанаваў дэпутатам не прымаць падобнага рашэння, абумовіўшы гэта тым, што такім чынам парламент парушае Канстытуцыю і ўмешваецца ў сферу выканаўчай улады, паколькі тэлерадыёкампанія знаходзіцца пад яе кіраўніцтвам. У адказ прагучалі аргументы, маўляў, тэлерадыёкампанія з'яўляецца дзяржаўнай і фінансіруецца за кошт усіх падаткаплацельшчыкаў, а значыць яны маюць права атрымліваць поўную інфармацыю, у тым ліку і аб рабоце Вярхоўнага Савета. Тым не менш, праект пастановы быў адпраўлены на дапрацоўку. Адказваючы на пытанне карэспандэнта «Звязды», наколькі правамернай з'яўляецца ініцыятыва заканадаўцаў, старшыня Беларускай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель увогуле пагадзіўся з пазіцыяй Прэзідэнта і адзначыў, што тэлебачанне не збіраецца выкарыстоўваць ранейшую практыку трансляцыі пасяджэнняў сесіі, а плануе абмежавацца кароткімі рэпартажамі для выпускаў навін, тэматычнымі праграмамі па разглядаемых у парламенце пытаннях і, магчыма, аналітычнай перадачай «Парламенцкая гадзіна», якая будзе выходзіць адзін раз на тыдзень. Ніякіх перашкод для аб'ектыўнага асвятлення заканадаўчай дзейнасці ў краіне сп. Кісель, такім чынам, не бачыць.

Але спрэчкі вакол дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі з'яўляюцца дзіцячай забаўкай у параўнанні з тым, што ўзнікла, калі дэпутаты наблізіліся да абмеркавання кадравых пытанняў: выбрання Старшыні Вярхоўнага Савета, яго намеснікаў, кіраўнікоў пастаянных камісій і саставу Прэзідыума. Аляксандр Лукашэнка выказаў жаданне выступіць перад дэпутатамі з дакладам на гэтую тэму перш чым яны пачнуць вылучэнне кандыдатаў. Але, спасылаючыся на дамоўленасць з прадстаўнікамі фракцый, з якімі ён вёў кансультацыі, Прэзідэнт прапанаваў зрабіць гэтае выступленне за зачыненымі дзвярыма. Па словах жа прадстаўніка фракцыі камуністаў Сяргея Калякіна, на сустрэчы з Прэзідэнтам размова вялася не пра закрытае пасяджэнне, а пра адмену прамога эфіру на тэлебачанні і радыё падчас гэтага выступлення. Тым не менш, сярод дэпутацкага корпуса знайшлося нямала жадаючых пагутарыць з кіраўніком выканаўчай улады без лішніх сведак. У парламенце, такім чынам, з'явілася некалькі дэпутацкіх груповак:

(Заканчэнне на 3-й стар.).



## АДЗІНСТВА Ў РАЗУМЕННІ ПРЫЯРЫТЭТАЎ УНУТРАНАЙ І ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫКІ — ГЭТА ПРЫНЦЫПОВАЯ АСНОВА, НА ЯКОЙ ПАВІННА БУДАВАЦЦА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ ВЫКАНАЎЧАЙ І ЗАКАНАДАЎЧАЙ УЛАДАЎ

*Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ на першай сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання*

Паважаныя дэпутаты! Дазвольце мне ад свайго імя, ад імя ўрада Рэспублікі Беларусь павіншаваць вас з адкрыццём першай сесіі і пажадаць вам паспяховай работы на карысць беларускага народа.

У сваім выступленні я хацеў бы спыніцца вельмі коратка на найбольш важных праблемах, якія стаяць перад краінай і патрабуюць хутчэйшага вырашэння. Адзінства ў разуменні прыярытэтаў унутранай і знешняй палітыкі — гэта тая прынцыповая аснова, на якой можа і павінна будавацца ўзаемадзеянне выканаўчай і заканадаўчай уладаў. Беларусь — еўрапейская дзяржава з высокаадукаваным, працавітым і мірным народам. У яе няма этнічных, рэлігійных, кланавых і іншых канфліктаў, якія раздзіраюць многія дзяржавы. Я глыбока перакананы, што ў беларускага народа ёсць усё неабходнае для дастойнага жыцця. Дзяржаўная ўлада ў стане забяспечыць умовы для міру і росквіту рэспублікі. Для гэтага патрэбна, каб Прэзідэнт, Вярхоўны Савет, дзейнічаючы метадамі, уласцівымі кожнай галіне ўлады, выконвалі задачы, вызначаныя Канстытуцыяй рэспублікі. Дабрабыт краіны і кожнага беларускага грамадзяніна залежыць у першую чаргу ад стану спраў у нашай эканоміцы.

Перспектыўныя падыходы да вырашэння нашых эканамічных праблем выкладзены ў сістэмным выглядзе ў Праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года. Гэты дакумент для разгляду ў Вярхоўным Савеце вам прадстаўлены.

У мінулым годзе нам удалося ўтаймаваць інфляцыю, стабілізаваць курс беларускага рубля. Разам з дасягненнем фінансавай стабілізацыі ў 1995 годзе ўзрасла вытворчасць асноўных відаў прадуктаў нафтаперапрацоўкі, мінеральных угнаенняў. Устойліва працавалі энергетыка, торфаздабыўная, дрэваапрацоўчая і іншыя галіны прамысловасці. Нядрэнныя вынікі былі дасягнуты ў знешнім гандлі. Рэспубліка дабілася значнага дадатнага сальда ў гандлі з краінамі далёкага замежжа.



Таму ў праекце бюджэту, які вам трэба зацвердзіць, прадугледжваецца, што ўжо ў бягучым годзе будзе спынены спад вытворчасці і пачнецца доўгачаканы ўсімі пад'ём у эканоміцы. Гэтаму садзейнічае і ажыўленне эканомікі нашага галоўнага партнёра — Расійскай Федэрацыі. Аднак, каб спыніць спад вытворчасці, трэба падтрымаць яе на ўзроўні, крытычна неабходным для перастуктурызацыі, мадэрнізаваць прамысловасць і сельскую гаспадарку. А гэта немагчыма зрабіць без замежных і ўнутраных інвестыцый.

У мінулым годзе я, як Прэзідэнт, рабіў пэўныя крокі ў гэтай сферы. Задача заканадаўцаў — у самыя сціслыя тэрміны стварыць прававую базу, аснову спрыяльнага інвестыцыйнага клімату ў краіне. Пад'ём вытворчасці не можа ажыццявіцца без жорсткага бюджэтна-падатковага і крэдытна-грашовага рэгулявання. Неабходна ў сціслы тэрмін дапрацаваць і прыняць Падатковы кодэкс, прадугледзеўшы ў ім зніжэнне падатковай нагрузкі на прадпрыемствы. Пераадоленню спаду ў аграпрамысловым комплексе будзе садзейнічаць пераход на рэнтабельныя закупачныя цэны.

Нам неабходна аслабіць такі дэстабілізуючы эканоміку фактар, як недахват уласных абаротных сродкаў. Важнай крыніцай нармалізацыі фінансаў прадпрыемстваў павінна стаць умацаванне плацежнай дысцыпліны ў спалучэнні з жорсткім кантролем з боку дзяржавы. Разам з тым, як бы ні было складана, Нацыянальнаму банку, камерцыйным банкам прыйдзецца адшукаць магчымасці для папаўнення ўласных абаротных сродкаў прадпрыемстваў, у тым ліку калгасаў і саўгасаў. Калі гэтага не зрабіць, то замест прыросту вытворчасці мы атрымаем масавае банкруцтва. Росту вытворчасці несумненна будзе садзейнічаць развіццё прадпрымальніцтва. Але толькі сумленнага прадпрымальніцтва, а не жульніцтва. І мною зроблены шэраг крокаў па развіццю прыватнага сектара. Глыбока перакананы — нам не ўзняць вытворчасці без аднаўлення кіравання дзяржаўным сектарам эканомікі, які працягвае займаць вядучыя пазіцыі ў гаспадарчым комплексе рэспублікі. Для гэтага неабходна ўнесці істотныя змяненні ў законы, якія рэгулююць дзейнасць дзяржаўных прадпрыемстваў і павышаюць іх адказнасць за вынікі гэтай дзейнасці. Павінен сказаць, што вяртання да адміністрацыйна кіруемай эканомікі са 100-працэнтнай дзяржаўнай уласнасцю быць не можа. Але гэта не азначае, што дзяржава самаўхіліцца ад рэгулявання эканомікі, ад уплыву на цэнаўтварэнне.

Працэс фарміравання шматукладнай, сацыяльна арыентаванай эканомікі павінен праходзіць пад жорсткім кантролем дзяржавы. Прыватызацыю трэба правесці ў інтарэсах народа і дзяржавы, а не зладзеяў і жулікаў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

Сесія: дзень першы.

Фотарэпартаж спецыяльных карэспандэнтаў «Звязды» Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ і Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## УВАСОБІЦЬ У ЖЫЦЦЁ НАКАЗ ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ

*Выступленне прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М. М. ЧЫГІРА на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання*

Паважаны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь!

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета!

Перш за ўсё дазвольце мне ад імя ўрада і ад сябе асабіста павіншаваць вас з адкрыццём першай сесіі парламента Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання.

Гэты дзень мае вялікае значэнне не толькі для ўнутрыпалітычнага жыцця нашай дзяржавы. Яго роля неацэнная ва ўмацаванні пазіцый і аўтарытэту Рэспублікі Беларусь на міжнароднай арэне. Сведчаннем таго з'яўляецца рэакцыя сусветнага супольніцтва на фарміраванне заканадаўчай улады ў дзяржаве.

У сённяшнім выступленні Прэзідэнта выкладзены тыя першачарговыя задачы, без вырашэння якіх немагчыма далейшае развіццё нашага грамадства. Лічу, што гэта выступленне накіроўвае парламент на творчую, рэзультатыўную работу.

Прэзідэнт, парламент і ўрад павінны ўвасобіць у жыццё наказ грамадзян нашай рэспублікі аб стварэнні моцнай, дэмакратычнай і свабоднай дзяржавы, якая мае цесныя інтэграцыйныя сувязі з усімі краінамі.

Мы павінны сумеснымі намаганнямі ўзводзіць будынак беларускай дзяржаўнасці, і ўрад гатоў да канструктыўнага ўзаемадзеяння з нававыбраным парламентам. Гатоў прыняць усе меры, якія залежаць ад яго, па забеспячэнню плённай работы Вярхоўнага Савета.

Паважаныя дэпутаты!

Улічваючы, што этап уваходжання ў парламенцкую дзейнасць заўсёды звязаны з пэўнымі цяжкасцямі, хацелася б перасцерагчы ўсіх вас ад спакусы атаясамлівання работы на ніве заканадаўчай творчасці з хаджэннем па арэне цырка з факелам у руках.

Я спадзяюся, што ўсе са мной пагодзяцца: гэта, наадварот, карпатлівая, вельмі складаная і, на жаль, не заўсёды ўдзячная работа.

Усім вам, знаходзячыся ў гэтай зале і, само сабой зразумела, імкнучыся да зацвярджэння сваёй асобы, прыйдзецца вытрымаць выпрабаванне захапленнем, скажу так, голым папулізмам. Хацелася б, каб вы хутчэй прайшлі гэта выпрабаванне.

Думаю, што не трэба строіць ілюзій наконт таго, што адносіны заканадаўчай і выканаўчай уладаў заўсёды будуць гладкімі. Шлях да ісціны ўжо сам па сабе складаны, часта супярэчлівы.

Урад гатоў да прадметных дыскусій з дэпутацкім корпусам, канструктыўнай работы з пастаяннымі камісіямі Вярхоўнага Савета. Магчыма, нам трэба ўзгадніць пэўны час для такіх сустрэч, каб яны маглі мець рэгулярны і плённы характар.

Магу паведаміць, што ва ўрада і па суботах рабочы дзень. Магчыма, гэта найбольш прыдатны час для дадатковых свабодных зносінаў з дэпутатамі.

Улічваючы састаў дэпутацкага корпуса, трэба думаць, што вам даволі добра вядома аб сітуацыі ў эканоміцы. Нягледзячы на істотнае запавольванне крызісных з'яў, агульны стан нацыянальнай эканомікі працягвае заставацца складаным.

Вы таксама ведаеце аб прынятым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і ўрадам рашэнні павялічыць мінімальную зарплату з 60 да 100 тысяч рублёў і тарыфную стаўку першага разраду — да 110 тысяч рублёў. Вядома, гэта складанае і адказнае рашэнне. У аснове яго дакладны прагноз магчымага росту аб'ёмаў вытворчасці ўжо ў бліжэйшы час.

Сёння ў дзяржавы няма фінансавых рэзерваў для поўнага выканання такога рашэння. Выканаць яго можна толькі зыходзячы з мабілізацыі рэзерваў матэрыяльнай вытворчасці і за кошт больш рацыянальнага выкарыстання бюджэтных сродкаў.

Нам трэба агульнымі намаганнямі зрабіць бягучы год годам актыўнага ўвасаблення ў жыццё эканамічных рэформаў. Для гэтага ёсць усе прадпасылкі.

Вы ведаеце, што напярэдадні Новага года было падпісана Генеральнае пагадненне паміж урадам, аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзамі на 1996 год. У ім прадугледжваюцца меры, якія забяспечваюць аб'ём выпрацаванага валавога ўнутранага прадукту не ніжэй за ўзровень 1995 года.

Мы дагаварыліся дабіцца зніжэння ўзроўню інфляцыі да канца бягучага года да 1-2 працэнтаў у месяц, забяспечыць долю сродкаў, накіроўваемых на аплату працы ў валавым унутраным прадукце не ніжэй за 35 працэнтаў.

На перыяд стабілізацыі эканомікі прадугледжваецца захаваць долю сродкаў, накіроўваемых з дзяржаўных крыніц на фінансаванне галін сацыяльнай сферы ў працэнтах да расходнай часткі бюджэту ні ніжэй за ўзровень 1995 года, павялічваючы аб'ёмы гэтага фінансавання па меры аздараўлення эканомікі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПРАГНОЗ ДЭПУТАТАЎ

***Генадзь КАРПЕНКА:***

— Найбольшыя шанцы перамагчы ў барацьбе за спікерскае крэсла мае Сяргей Калякін. Гэта не мая асобная думка, а, калі можна так сказаць, даныя пазакуліснага, кулуарнага парламенцкага рэйтынгу. На другім месцы — лідэр аграрнікаў Сямён Шарэцкі. Што датычыцца былога кіраўніка ўрада Вячаслава Кебіча, то, назіраючы за сённяшняй раскладкай сіл у парламенце, можна сказаць, што, хутчэй за ўсё, гэта непраходная фігура. Шэраг публікацый напярэдадні пачатку сесіі — толькі спроба падняць яго аўтарытэт. Таму, мяркую, барацьба разгорнецца ў асноўным паміж Калякіным і Шарэцкім.

***Людміла ГРАЗНОВА:***

— Па даўняму славянскаму звычаю гаспадар, які надумаў пабудаваць дом, запрашаў на дапамогу суседзяў і аднавяскоўцаў. Збіраўся народ і за дзень узводзіў сцены. Працавалі дружна, ад душы, потым частаваліся, спявалі і танцавалі. Пабудаваць будынак беларускага парламента аказалася значна цяжэй. Спатрэбілася ўсебеларуская талака, ды не адзін раз, а чатыры — двойчы вясной і двойчы увосень. Мільёны галасоў, аддадзеных за дэпутатаў, сталі будаўнічым матэрыялам для фундамента, сцен і даху беларускага парламента.

Быццам дом гатовы, ў яго ўжо ўвайшлі новыя жыхары — парламентарыі XIII склікання — і хутка закіпіць там заканадаўчая дзейнасць. Засталося для гэтага вельмі нямнога — выбраць кіраўніка і яго памочнікаў. Іх выбранне не з'яўляецца толькі ўнутранай справай жыхароў парламенцкага дома. Бо кожны выбаршчык паклаў цагліну ў падмурак беларускага парламента, і яму неабыякава, што будзе адбывацца ў Авальнай зале.

Калі будзе выбрана няўмелае начальства, няздольнае наладзіць заканадаўчую дзейнасць, адвернуцца ад дэпутатаў выбаршчыкі. Цяжкая гадавая работа ўсебеларускай талакі акажацца марнай. Тыя, хто перашкаджаў народнай будоўлі, застануцца задаволенымі.

Апошнія дзве акалічнасці павінны стаць галоўным напамінкам для дэпутатаў. Камусьці з дэпутатаў прыемна бачыць сябе ў начальніцкім крэсле. Многім хочацца бачыць свайго партыйнага лідэра на месцы спікера. Але лепш утаймаваць сваё ўяўленне, прыглушыць асабістыя амбіцыі і выбраць тых, за каго будзе не сорамна, хто мае значны палітычны аўтарытэт, хто можа пераканаўча гаварыць, чый розум праяўляецца не толькі ў кулуарных размовах, але і ў адкрытым дыялогу.

Будзе выбраны разумны кіраўнік, будуць падабраны яму адпаведныя памочнікі — не абрушыцца будынак новага беларускага парламента. Вось тады пасвяткуем, паспяваем і патанцуем.

(Заканчэнне падборкі матэрыялаў на 3-й стар.).

## РОЗГАЛАС

### «ГОЯ» — ГЭТА САМАСТОЙНАСЦЬ

**Сыраробы Бярозаўскага сыраробнага камбіната здаўна хваліліся сваёй прадукцыяй. Іх сыры заўсёды былі нарасхват, асабліва «Расійскі», які ў былыя часы меў нават прэстыжны Знак якасці.**

Але вось у 1995 годзе прадпрыемства набыло самастойнасць, стала называцца адкрытым акцыянерным таварыствам «Бярозаўскі сыраробны камбінат», выйшла са сваёй прадукцыяй на сусветны рынак.

Галандская фірма «Вонк Дзеары Продуктс БВ» заключыла дагавор з бярозаўскімі сыраробамі на пастаўку сыру «Гоя», які потым ідзе для прыгатавання ежы ў ЗША. 300 тон сыру адпраўлена за акіян.

Здзелка гэта вельмі выгадная для прадпрыемства. Па-першае, атрымаўшы валюту, калектыў поўнасцю разлічыўся за малако з гаспадаркамі, пастаўшчыкамі прадукцыі. Па-другое, сам стаў па-людску жыць. Напярэдадні новага года сыраробны камбінат за валюту купіў тры кватэры для чаргавікоў. Іх атрымалі вадзіцель-афганец Аляксандр Стацэня, сыраробка Жанна Леанчук і майстар прыёмна-апаратнага ўчастка Любоў Валах. Палову кошту згодна з дагаворам аплаціў камбінат.

Частка валютных сродкаў патрачана для набыцця сучаснага зубаўрачэбнага абсталявання ў свой стаматалагічны кабінет.

**Людміла ГІЛЁВА.**

### НА ЖАБРАЦКІМ ПАЙКУ

**Несуцяшальную статыстыку прыводзяць медыкі Гомельшчыны. У вобласці, якая найбольш пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы, сёння не хапае больш як тысячу ўрачоў, з-за чаго забяспечанасць іх на дзесяць тысяч жыхароў на дзевяць ўрачоў меншая, чым у цэлым па краіне.**

Дзе-нідзе (у шасці ўчастковых бальніцах і ў дваццаці васьмі сельскіх амбулаторыях) урачоў наогул няма, а ўкамплектаванасць па такіх спецыяльнасцях, як педыятры, фтызіятры, участковыя тэрапеўты ў асобных установах медыцынскага профілю складае пяцьдзесят — шэсцьдзесят працэнтаў.

Звычайнай з'явай у медыцынскіх установах становіцца немагчымасць мыцця бялізны і набыцця яе (у некаторых бальніцах з-за адсутнасці новай яе ўжо пачалі латаць), рамонту памяшканняў, набыцця неабходнага інвентару, медыцынскага абсталявання, якое зношваецца, старэе. Складанае становішча і з медыкаментамі, і з бальнічнымі плошчамі. Напрыклад, зараз на аднаго хворага яе прыпадае ўсяго 4,3 кв. метра замест сямі па норме.

Пералік падобных цяжкасцей і праблем медыкаў можна працягваць і далей. А ўтварыліся яны таму, што, вобразна кажучы, ахова здароўя ў вобласці аказалася ледзь не на жабрацкім пайку з-за яўна недастатковага фінансавання. І ў выніку на канец мінулага года крэдыторская запазычанасць медыцынскіх устаноў склала ледзь не сто мільярдаў рублёў. Добра яшчэ, што, разумеючы праблемы медыкаў, арганізацыі, якія іх абслугоўваюць, у доўг адпускаюць ім ваду, электраэнергію, цяпло і г. д.

Што будзе далей з медыцынай вобласці, невядома. Па-ранейшаму медперсаналу абяцаюць фінансавую падтрымку (больш дзейсную) у тым выпадку, калі ў бюджэт пачне паступаць больш грашовых сродкаў. А пакуль народ чарнобыльскага рэгіёна жартуе так: на медыцыну і высокае начальства спадзявайся, а сам не хварэй.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### «РАТУША» ЯК АПОШНІ БАСТЫЁН БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Пасля сямімесячнага перапынку ў Магілёве аднавіўся выхад газеты «Ратуша».**

Як вынікае са звароту абноўленага калектыву рэдакцыі да чытачоў, у новым годзе былы супольны орган магілёўскіх арганізацый БНФ і БСДГ змяніць свой выгляд. Цяпер «Ратуша» пачынае выходзіць як непартыйная, незалежная газета, якая на сваіх старонках будзе імкнуцца адлюстроўваць увесь спектр палітычнай думкі Беларусі.

Бадай адзінае, што захаваецца ў будучым ад «старой» «Ратушы», — гэта яе беларуская мова. Цікава, што менавіта гэта газета застаецца сёння апошнім абласным выданнем на Магілёўшчыне, якое адмовілася пераходзіць на двухмоўе.

**Сяргей ГРЫБ.**

### ФОНД СТАРАЕЦЦА

**Дабрачыннаму Гомельскаму фонду «Дапамога дзецям Чарнобыля», старшынёй якога з'яўляецца Генадзь Карэцкі, споўнілася пяць гадоў.**

За гэты час ён аздаравіў у многіх краінах блізкага і далёкага замежжа звыш дваццаці трох тысяч дзяцей, якія пражываюць на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях. У адрас фонду прыйшла гуманітарная дапамога чарнобыльцам амаль на дзесяць мільёнаў амерыканскіх долараў, і асноўнае месца ў ёй займаюць медыкаменты і медыцынскае абсталяванне.

— Наш фонд, — расказвае Генадзь Віктаравіч, — разам з Інстытутам медыцынскай радыялогіі імя Ота Хуга з Германіі ўдзельнічаў у стварэнні цэнтра шчытападобнай залозы ў Гомелі, дзе зараз за год абследуецца да дзесяці тысяч дзяцей.

Няхай і надалей фонд служыць людзям.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*СІТУАЦЫЯ*

# ФІКЦЫЯ

**Бываюць жыццёвыя сітуацыі**, дзе скаржніку не дапаможа ні Бог, ні Прэзідэнт, ні, тым болей, карэспандэнт. У «пастку» людзі заганяюць сябе самі, імкнучыся перахітрыць у адным выпадку — дзяржаву, у другім — суседа, у трэцім... Зрэшты, варыянты, як прынята гаварыць, магчымы розныя.

Па адной такой калізіі наведаў нядаўна Быхаў. І пачуў гісторыю, якая, на першы погляд, здалася неверагоднай.

Падпалкоўнік у адстаўцы, заслужаны лётчык і ўвогуле паважаны чалавек з адпаведнымі атрыбутамі сацыяльнага стану (кватэра, дача, машына, гараж) застаўся ў адзін цудоўны момант без кала і без двара.

Пажар? Стыхійнае бедства? Напад чачэнскіх баевікоў?

Нічога падобнага.

Пасля падзелу Саюза застаўся наш служывы на Беларусі, а сям'я — у Пецярбургу. Тут, у райцэнтры на Магілёўшчыне, ён атрымаў кватэрку і, натуральна, запрасіў дамачадцаў да сябе для сумеснага, як гавораць юрысты, пражывання.

Жонка — а хто ў нармальнай сям'і кіруе, як не яна? — згадзілася. Але з умовай: спачатку — развод.

Ваенны, мала дасведчаны ў нюансах грамадзянскага побыту, натапырыўся: а навошта?

— Прыеду, усё растлумачу.

Аказваецца, план быў простым, як граблі. Практычная жанчына (а якая з іх непрактычная?) прапанавала свайму мужу фіктыўнае скасаванне шлюбу дзеля захавання жылля ў Пітэры. Дзеці, маўляў, яшчэ непаўналетнія, і законным кватэранаймальнікам можа заставацца гаспадыня, калі гаспадар, г. зн. муж, аб'еўся, па рускаму выразу, груш.

На тым і пагадзіліся. Хто ж вораг сваёй сям'і?

Аб тым, што так робіцца скрозь і ўсюды, я скажу пазней. А зараз вымушаны растлумачыць, чаму тайнае пагадненне, да якога, па логіцы, нашым праваахоўнікам ніколі не дакапацца, усё ж стала набыткам галоснасці. Справа ў тым, што, каб як мага хутчэй разысціся, патрэбна згода абодвух бакоў, але такая, каб не выклікала ў Феміды ніякіх сумненняў. Заяву ў суд падала жонка. Маўляў, п'яніца, дэбашыр, грошы не аддае, кахаць не ўмее і гэтак далей. Ну, а муж, як і належыць джэнтльмену, ды яшчэ з пагонамі старшага афіцэра, паралельна накіраваў дэпешу і ад сябе, сутнасць якой, калі коратка, зводзілася да таго, што сапраўдны мужчына, калі ў яго ёсць гонар, не павінен ісці насуперак жаданню жанчыны, што з іскам згодзен, што ён сапраўды такі і сякі і што ніякіх маёмасных прэтэнзій не мае.

Словам, разышліся, як самалёты ў небе па камандзе штурмана.

Падпалкоўнік з пачуццём выкананага перад сям'ёй абавязку стаў чакаць жонку. Месяц, паўгода, год... Ціха! Паехаў сам. Пазваніў у дзверы.

— Хто там? — чуе любімы голас.

— Я.

— Хто «я»?

— Ты што, не пазнаеш? Гэта я, твой муж.

— Які муж? У мяне няма ніякага мужа. Мы ў разводзе. Ідзі прэч.

Для таго, у каго слабыя нервы, гэта магло б закончыцца інфарктам. Але сэрца, загартаванае ў баявых трывогах, вытрымала. Падпалкоўнік, які, дарэчы, ужываў чыста сімвалічна, на гэты раз узяў бутэльку (як без яе разабрацца?) і паўтарыў штурм родных пенатаў. Скончылася міліцыяй, камендатурай, ваеннай пракуратурай, куды былая жонка накрэмзала заяву: пагражаў зброяй.

— Не хадзі туды, по-няў? — павучаў маладзенькі лейтэнанцік. — Мужык ты ў рэшце рэшт ці не?

Ён, вядома, усё зразумеў. Калі жонка абышлася з ім, як самы вераломны вораг, то чаму б не вярнуць хоць частку сумесна нажытага дабра? Але — дулю. Сваёй жа рукой засведчыў — маёмасных прэтэнзій не маю...

Такія вось печкі-лавачкі.

Прывёў я гэты сюжэт не для таго, каб пазабаўляць публіку. Справа ў тым, што дужа ўжо ненатуральна выглядае афіцыйная статыстыка, якая сведчыць, што на Магілёўшчыне, скажам, на 100 шлюбаў прыпадае 60 разводаў. А ёсць райцэнтры — напрыклад Асіповічы, — дзе такі паказчык складае 1:1 ледзь не цюцелька ў цюцельку. Гэта што — там усе халасцякі і халасцячкі?

Вядома, не. Справа ў фікцыі, якая набыла масавы характар. У адрозненне ад кур'ёзнага выпадку, аб якім расказаў, большасць фальшывых разводаў заканчваюцца паспяховым дасягненнем меркантыльнага інтарэсу, а што датычыць адносінаў паміж мужам і жонкай, то нічым: як мілаваліся (ці лаяліся — гэта як у каго), так на тым узроўні і засталіся, бо не паперка ж трымае або разганяе людзей.

Фіктыўнае скасаванне шлюбу, калі хочаце, стала зараз своеасаблівым сродкам выжывання. Сем'і нібыта распадаюцца не толькі дзеля таго, каб захаваць або набыць жылплошчу. Аказваецца, маці-адзіночцы (абсурд!) пражыць лягчэй, чым сяброўцы з мужам і дзецьмі. Бо адзінокай маці належыць ад дзяржавы сем мінімальных зарплат на дзіця школьнага ўзросту, а які сярэднестатыстычны муж забяспечыць такое? Яму хоць бы самому падтрымліваць сваё біялагічнае існаванне, калі зарплату на прадпрыемствах не выдаюць месяцамі.

Калі магутнасці такога гіганцкага работадаўцы, як магілёўскае аб'яднанне «Хімвалакно», загружаны толькі на 30 працэнтаў, а дапамогі па беспрацоўю не хапае нават на прыстойнае курыва. (Дарэчы, маці-адзіночку на рабоце не скароцяць, больш таго, дабавяць яшчэ адзін аплатны выхадны.)

Калі для паўнацэннага харчавання аднаго дзіцяці патрэбна ў дзень 35 тысяч рублёў, а дарослы, калі ён не бізнесмен, столькі не зарабляе.

Калі...

Вось такія ў нас «незаконныя» ячэйкі грамадства. Якое ж яно тады ў цэлым? Нездарма ў народзе жартуюць: не абдурыш — не пражывеш. Сумны, вядома, жарт.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# Аб некаторых аперацыях аднаго «палкоўніка КДБ» на тэрыторыі СССР і СНД

## Крымінальная драма ў дзвюх частках

**Пралог**. У маі леташняга года «Звязда» паведаміла аб арышце 51-гадовага Леаніда Сахноўскага, якога ў многіх службовых кабінетах г. Гродна, а таксама ў некаторых іншых гарадах ведалі не толькі як буйнога прадпрымальніка, але і як палкоўніка КДБ, асобу, якая мае непасрэднае дачыненне да дзяржаўных сакрэтаў першай велічыні. Адразу заўважым, што фактаў наконт інспіравання гэтага правалу «доўгімі рукамі» ЦРУ ці «Масада» пакуль не выяўлена. Да таго ж, за апошнія 20 гадоў гэта было ўжо трэцяе фіяска спадара Сахноўскага. І што самае дзіўнае — арыштоўвалі яго зусім не на чужыне. Падмаскоўе, Барнаул, цяпер вось Гродна...

### Частка першая. ЧАСЫ РАЗВІТОГА САЦЫЯЛІЗМУ

Дзеючыя асобы: Леанід Міхайлавіч Сахноўскі, «супрацоўнік камітэта прафсаюза ўпраўлення геалогіі, ён жа — начальнік гэтага ведамства, ён жа — адказны работнік Дзяржкамітэта СССР па навуцы і тэхніцы і падпалкоўнік, які выконвае ў асноўным сакрэтную работу; грамадзяне СССР з леспрамгаса, гадзіннікавага завода і рэжымнага навукова-вытворчага аб'яднання, якія мараць аб уласным аўтамабілі; суддзі і засядацелі з народных судоў г. Віднага і г. Барнаула.

Верасень 1976-га. У дырэкцыю аднаго з леспрамгасаў Маскоўскай вобласці прыбывае з візітам даволі салідная асоба гадоў трыццаці з гакам. Яна прадстаўляецца работнікам камітэта прафсаюза ўпраўлення геалогіі і прапануе для продажу 4 легкавікі з фонду гэтай арганізацыі, матывуючы тым, што іх трэба тэрмінова рэалізаваць, бо інакш «урэжуць» фонды на наступны год. «Але ўсё павінны быць па закону, — гаворыць прафсаюзны функцыянер. — Пішыце хадайніцтва на імя нашага начальніка, зацвярджайце пячаткай спіс уладальнікаў машын». Такі сур'ёзны падыход яшчэ больш узмацняе давер трапіўшых на «сёмае неба» леспрамгасаўцаў да свайго госця. У выніку той разам з неабходнымі паперамі атрымлівае 860 рублёў уступнага ўзносу. А неўзабаве будучыя аўтауладальнікі праз ашчадкасу пералічваюць Сахноўскаму асноўныя грошыкі — каля 16 тысяч. Пасля гэтага леспрамгас чакае, а «прафсаюз» усё абяцае і абяцае, што колы на падыходзе і ў рэшце рэшт... знікае.

Студзень 1977 года. Леспрамгасаўцы адшукваюць спадара Сахноўскага і прымушаюць яго вярнуць грошы. Аднак ужо праз 2 месяцы ўпраўленне геалогіі (на гэты раз у асобе яго начальніка) ізноў бярэцца за пошук карысных для сябе «выкапняў». Цяпер гэта рабочыя і служачыя 2-га Маскоўскага гадзіннікавага завода, якім «галоўны геолаг» абяцае 5 «Запарожцаў» з фондаў свайго паважанага ведамства. Сёння, калі нашы дарогі літаральна запаланілі «Мерседэсы», «Вольва» ці «БМВ», здзелка вакол гэтых «Запарожцаў» выглядае неяк ненатуральна. Але гэта сёння. А тады... Адзін расчулены кліент з радасці прэзентуе Сахноўскаму гадзіннік. Але галоўнае, вядома, — гэта папярэдняя аплата. Спачатку пакупнікі афармляюць у натарыуса даверанасць, якая ўпаўнаважвае Леаніда Міхайлавіча разлічыцца за машыны, атрымаць іх на заводзе і перагнаць у Маскву. Пасля гэтага Сахноўскі атрымлівае праз ашчадкасу 23 тысячы 200 рублёў і ў яго з'яўляецца цудоўная магчымасць атаварыцца каляровым тэлевізарам, лодкай, паляўнічымі стрэльбамі, кінакамерай, а таксама некалькі разоў з'ездзіць у Крым і на Каўказ. Што ж датычыць спецыялістаў па вырабу гадзіннікаў, дык ім зусім не да сонца і мора. «Колаў» як не было, так і няма, а грошы былі, ды зніклі...

«Начальнік геалагічнай галіны» разумее, што «запахла смажаным». Ён тэлефануе галоўнаму бухгалтару аднаго рэжымнага НВА, прапануючы з тых жа самых «фондаў» 8 «Жыгулёў» і «Запарожац». І зноў усё праходзіць на «ўра»: хадайніцтва, спіс чаргавікоў, ашчадкасы... Радуюцца чаргавікі, радуецца і Леанід Міхайлавіч: як-ніяк, а 44.380 рублёў — гэта тады былі грошы проста шалёныя. З гэтай сумы Сахноўскі разлічваецца з папярэднімі кліентамі (вярнуўшы нават 90 рублёў за падораны яму гадзіннік), а на астатнія грошы разам з галоўным бухгалтарам НВА выязджае ў Крым. Цяпер ён ужо не проста шэф упраўлення геалогіі, але і «падпалкоўнік», які выконвае ў асноўным сакрэтную работу.

Ну, а потым: «Устаць! Суд ідзе!» 5 гадоў турмы. Праўда, увесь тэрмін Сахноўскі не адбыў, яго ўмоўна вызвалілі з абавязковым прыцягненнем да працы, але ў хуткім часе далі яшчэ 8 гадоў. На гэты раз Леанід Міхайлавіч пагарэў на пасадзе «адказнага работніка Дзяржкамітэта СССР па навуцы і тэхніцы», рэалізаваўшы з «фондаў» гэтага ведамства неіснуючы «УАЗ-469». За 7 тысяч 200 рублёў.

### Частка другая. ЧАСЫ НЕДАРАЗВІТАГА РЫНКУ

Галоўная дзеючая асоба ўсё тая ж, яна «даслужылася» да «палкоўніка КДБ», «выйшла ў адстаўку» і, пераехаўшы ў Гродна, пераключылася на рознапланавы бізнес спачатку ў якасці прэзідэнта канцэрна «Еўропа», а калі апошні абанкруціўся — як дырэктар таварыства з абмежаванай адказнасцю «Дэльфін».

Парадаксальна, што ў пратаколе медыцынскага агляду, складзенага ў лістападзе 1994 года пасля затрымання Сахноўскага за рулём у нецвярозым стане, ён значыцца як «непрацуючы». Існуе і яшчэ адзін даволі цікавы дакумент — хадайніцтва калектыву фірмы «Дэльфін», каб шэфа не пазбаўлялі вадзіцельскіх правоў, бо ён не зможа ездзіць за мяжу і нашы «чарнобыльцы» не атрымаюць адтуль гуманітарнай дапамогі.

Зразумела, што Леанід Міхайлавіч не мог апусціцца да грамадскага транспарту і таму вырабіў у Расіі яшчэ адны правы. Але гэта так сабе, «кветачкі» ў параўнанні з той дзейнасцю, якую разгарнуў спадар Сахноўскі. У прыватнасці, КДБ мае звесткі аб дачыненні свайго «калегі» да аперацый з наркотыкамі, да пастаўкі багатым кліентам пэўных «дзяўчынак». Любімым жа заняткам для Леаніда Міхайлавіча застаўся аўтабізнес. Праўда, цяпер ужо не было ні хадайніцтва, ні чаргавікоў, ні фондаў (рынак!), а разлік вёўся не рублямі, а выключна ў СКВ. У астатнім жа ўсё адбывалася як з тым жа леспрамгасам.

Дзелавы візіт беларускага камерсанта ў Санкт-Пецярбург. Фірма «Дэльфін» можа паставіць машыны па цэнах ніжэй за рыначныя. Кліенты тут як тут. Заключаюцца кантракты, дзе агаворваецца не толькі тэрмін пастаўкі (на працягу месяца), але і колер аўтамабіля («спелая вішня»), пасля чаго Сахноўскі збірае грошы — з аднаго кліента 4100 долараў, з другога — 4300, з трэцяга — 4800, у залежнасці ад мадэлі «ВАЗа». На гэтым «палкоўнік федэральнай службы разведкі» («Мы вырашылі, што ён — расійскі рэзідэнт у Беларусі», — паскардзіцца потым следчаму адзін пецярбуржац) лічыць свае функцыі вычарпанымі.

Найбольш цяжкія ўспаміны аб знаёмстве са спадаром Сахноўскім засталіся ў мінчаніна Л. Іх шляхі перасекліся ў 1991 годзе ў санаторыі «Парэчча». І калі праз 2 гады Л. адзначаў свой 60-гадовы юбілей, прэзідэнт канцэрна «Еўропа» быў у яго адным з самых паважаных гасцей. Але сапраўдная прычына, па якой Леанід Міхайлавіч прыкіпеў душой да гэтага чалавека, стала вядома трохі пазней, калі сябры сталі кампаньёнамі і Л. перадаў Сахноўскаму 29.999 амерыканскіх долараў і 2400 нямецкіх марак для ўкладання ў сумесны бізнес. І гэтай валюты, і дывідэндаў Л. чакае і сёння, нават пасля больш чым 20(!) паездак у Гродна і становучага для яго судовага вердыкту.

Дарэчы, разам з Л. пагарэў і яго знаёмы, галоўны інжынер аднаго сталічнага прадпрыемства Ц. Апошні так даверыўся «былому палкоўніку КДБ, афганцу і кавалеру ордэна Леніна», што нават не настойваў на распісцы за перададзеныя Сахноўскаму на набыццё аўтамабіля 1740 долараў і 520 дойчмарак.

У кастрычніку 1994 года Л. і Ц. у чарговы раз накіроўваюцца ў горад над Нёманам і сустракаюцца з Дзімам, у прысутнасці якога Леанід Міхайлавіч складае графік вяртання доўгу абодвум жыхарам нашай сталіцы. А назаўтра ў іх нумар у санаторыі «Парэчча» наведваецца былы сябар, ды не адзін, а з двума сяржантамі міліцыі. Размахваючы пісталетам, Сахноўскі патрабуе ад мінчан учарашнія распіскі, інакш ён тут жа арыштуе Л., а Ц. здыме з работы. Пакуль, праўда, мне невядома, былі гэта сапраўдныя ахоўнікі правапарадку ці асобы, якія карысталіся міліцэйскай формай, — у абласным УУС паабяцалі разабрацца.

Дарэчы, знятым з работы Сахноўскі пагражаў не толькі абдуранаму кліенту, але і следчаму Мікалаю Бялову. З чаго б гэта? На чыё заступніцтва спадзяваўся Леанід Міхайлавіч? Але да суда ўсё ж дайшло.

### Замест эпілога

Суд Ленінскага раёна г. Гродна палічыў, што крымінальны талент спадара Сахноўскага, дзякуючы якому ён займеў 908 мільёнаў рублёў, варты «звання» асабліва небяспечнага рэцыдывіста і заслугоўвае 13 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Аднак уся маёмасць — гэта хіба што арыштаваная іншамарка. А дзе тыя мільёны, на якіх рахунках — невядома. Можа, пашукаць «Інтэрполу»?

Ну, а пакуль застаецца канстатаваць, што ад звароту ў праваахоўныя органы пацярпеўшыя грамадзяне Беларусі і Расіі атрымалі практычна нуль долараў і столькі ж марак. Ведаючы пра падобны «механізм» вяртання ўкрадзенага, куды пойдзе чарговая ахвяра махлярства: у міліцыю ці да «вышыбалаў»?

Хаця, вядома, пачынаецца з тых, хто давярае, дае, тым самым абараняючы махляроў ад беспрацоўя. Апошняе, відавочна, «сахноўскім» не пагражае ні ў бліжэйшай, ні ў аддаленай перспектыве. Асабліва ўлічваючы тое, што асоба з багатым крымінальным мінулым можа без усякіх праблем адкрыць адну фірму, потым, не разлічыўшыся па даўгах першай, — другую. І ўсё нармальна: кантора рэгіструе, махляр арудуе. Яго прымаюць у многіх службовых кабінетах, яму аказваюць падтрымку. Трэба, скажам, Сахноўскаму адшукаць багатага «партнёра» — памочнікі тут як тут. Званок да чалавека, які, як кажуць, зубы з'еў на апаратнай рабоце, знаёмства, абяцанне ўсякай дапамогі. З боку фірмы, якая працуе «пад прыкрыццём спецслужбаў Беларусі і Расіі» — і справа ідзе. Леаніда Міхайлавіча рэкамендуюць сталічнаму бізнесмену, і ў хуткім часе звыш 13 тысяч «баксаў» трапляе ў кішэнь чалавека, які «спяшаецца ў Белавежскую пушчу на сустрэчу з высокапастаўленымі асобамі дзяржавы».

Цяпер у спадара Сахноўскага іншае жыццё, іншыя праблемы. Але гэты выбар ён зрабіў сам.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*ЖЫЦЦЯПІС*

# ПРЫМІРЭННЕ

**Юра Настырка** з трыццатага гаража аднойчы прыехаў дужа ўзбуджаны. Дастаў з «Масквіча» дынамікі, падключыў іх да магнітафона, і вось паляцела над гаражамі «...фронт, фронт, фронт, ты маё і тваё...», — надрыўна крычаў Сокалаў-Воюш. Праз дзень ужо ўсе ведалі, што Настырка стаў нефармалам і дэмакратам. Песня гэтая дужа спадабалася хлопцу і, як толькі ён з'яўляўся ў гаражы, пачынаў круціць яе раз за разам. Дынамікі раўлі, а Юра спакойна круціў гайкі ды пастукваў малатком.

Сусед з трыццаць першага гаража, Стапарчук, ужо пенсіянер, цярпеў з тыдзень, а потым не вытрымаў, зайшоў да Юры і крыкнуў яму над вухам:

— Ды заткні свайго крыкуна, галава развальваецца!

Настырка выключыў магнітафон і падняўся са стульчыка.

— А я, Фёдаравіч, не ведаў, што ты камуняка! — з'едліва сказаў Настырка і націснуў на клавішу. Дынамікі зноў загрымелі.

Стапарчук ніколі камуністам не быў, але ў гаражы павесіў карту Савецкага Саюза, якую дачка-настаўніца прынесла са школы. Геаграфічная карта, пацёртая на згібах, вісела на белай сцяне, а над ёю красаваўся жалезны герб з пасажырскага вагона: знаёмы чыгуначнік нацягаў іх цэлую скрыню.

Настырка і Стапарчук ужо не размаўлялі, а Балатовіч, з гаража насупраць, забягаў то да аднаго, то да другога. Убачыць, што Настыркі няма, — і ў трыццаць першы гараж.

— Ты бачыш, што гэтыя дэмакраты нарабілі?! — гаворыць Балатовіч тужліва гледзячы на карту. — Такую дзяржаву ўгробілі. Бензін каштаваў дзесяць капеек, а сёння за тры тысячы пераваліў, — трос тоўстымі шчокамі Балатовіч. — Паслухай, Фёдаравіч, а эпаксідкі ў цябе не знойдзецца?

А пры зручным моманце Балатовіч ужо ў гаражы Настыркі.

— Не-е, Юра, пакуль камуністаў з кабінетаў не выкурым, толку не будзе, — гаварыў Балатовіч, ківаючы на «Пагоню», якой Юра абклеіў свой «Масквіч». — Прыгожая штука, што тут казаць. — Настырка пачынае горача гаварыць пра герб. У вачах агеньчыкі, у куточках губ сліна пеніцца, але Балатовіч перапыняе яго: «Юра, можа пазычыш пару электродаў?» — Настырка шукае электроды і ўсё гаворыць, гаворыць...

* * *

Гараж у Юры някепскі. І ўсяго ў ім многа, але ўсё параскідана-пераблытана. Як ні павернешся, абавязкова за штосьці зачэпішся. У Балатовіча ж ключы роўненька раскладзены на паліцах, дрот і вяровачкі скручаны і вісяць на сценах, а ў падвале клеткі з нутрыямі.

І ў Стапарчука таксама парадак. Яго зялёны «Масквіч» ужо дваццаць гадоў бегае спраўна. На сядзеннях накідкі з цялячых шкур, пад нагамі ходнічкі...

* * *

Закончыліся мітынгі, і не спяваў больш Сокалаў-Воюш. Юра Настырка схаваў свае дынамікі пад зашмальцаваную фуфайку і стаў Юрасём. Цяпер ён рамантаваў аўтамашыны. У гаражы гудзеў трансфарматар і сляпіла электрычнае ззянне.

Стапарчук раніцой вазіў на рынак тавар камерсанта, а вечарам забіраў, ды на ноч ставіў пад радыятар электраплітку, каб вада ў машыне не замерзла.

Цяжка жыць, скардзіўся Балатовіч, і свае «Жыгулі» змяніў на «Опель». Ён займаўся камерцыяй. Кідаў у мяшок нутрый, завязваў яго на выхлапной трубе і ўключаў матор. Вырабляў шкуркі ды шыў шапкі... А яшчэ ў Балатовіча пад сталом быў прыхаваны кампактны самагонны апарат з электрападагрэвам.

Круціліся Настырка і Стапарчук, круціўся і Балатовіч. Круціліся і іх электралічыльнікі. Але не злева направа, а наадварот.

* * *

Надышлі выбары, і Настырка стаў кандыдатам. Цяпер ён хадзіў па гаражах і агітаваў.

— Пасля выбараў мы разбяромся, хто катэджы адбудаваў, а хто на крадзеным бензіне ездзіць!

На крадзеным бензіне ездзілі многія, на ім жа ездзіў і Юрка, але апошні раз ён «прамаргаў» бензавоз, які заязджаў да гаражоў з расійскай авіябазы, і салдаты прадавалі бензін па сходнай цане, і цяпер ездзіў на камерцыйным, ад чага адчуваў сябе чэсным перад народам і дзяржавай.

Выбары Настырка прайграў. У другі тур выйшлі настаўнік і кандыдат ад камуністаў. Юра палагаднеў, а Фёдаравіч павесялеў.

* * *

У нядзелю, перад Калядамі, Настырка забег у гараж, каб праверыць машыну, бо заўтра трэба было ехаць да цешчы па свежаніну.

Тут ён і ўбачыў пад «Масквічом» цёмную пляму. Праверыў. Лопнула тармазная трубка. Дзе ўзяць новую? Выйшаў, паглядзеў. Цёмна. Гаражы зачынены, і толькі ў суседа праз шчыліны святло прабіваецца. У Стапарчука трубкі былі. Юра іх бачыў, ляжалі пад паліцай, звязаныя зялёным пасачкам. Але як тут папросіш, калі за апошнія гады словам не перакінуўся? Хацеў ужо вяртацца ў гараж, як у канцы вуліцы бліснулі фары і праз хвіліну пад'ехаў Балатовіч.

Прасіць трубку ў Стапарчука Балатовіч не захацеў:

— Чаму я? Табе ж трэба, ты і пытай!

Тады Юра запытаў: «А гарэлка знойдзецца?»

— Ты ж ведаеш, што ў мяне з нацэнкай.

— Давай і закуску!

Балатовіч адразу ж заварушыўся. Хуценька загнаў машыну — і ў падвал. На стале разаслалі газету, адкрылі бляшанку кансерваў, паставілі бутэльку... Балатовіч пабег па Стапарчука.

Той прыйшоў, прывітаўся і спытаў:

— З якой нагоды?

— А нагода тут адна: стары год правядзём, а Новы сустрэнем, — весела сказаў Балатовіч: выпіць «на халяву» ён любіў.

— Калі так, то можна! — Фёдаравіч уладкаваўся на пустую клетку, і яму, як старэйшаму, налілі першаму. Стапарчук піў рэдка, але калі ўжо выпіваў, то «пачорнаму». Бывала, і начаваў у гаражы.

Прымірэнне адбылося пасля другой чаркі.

— Ну, Юра, як камуністы вас надралі? — не без задавальнення спытаў расчырванелы Фёдаравіч.

— А, яшчэ не вечар! — выцягнуў галаву з каўняра Настырка. — І ўсё ж ты, Фёдаравіч, камуняка!

— Я такі ж камуніст, як ты дэмакрат, — Стапарчук узяў трыма пальцамі квашаную капусту, закінуў галаву і адправіў у рот.

— Ну не скажы! — Настырка пакінуў жаваць.

— Які ты дэмакрат, калі твая жонка яшчэ нядаўна «фінгалам» свяціла? — засмяяўся Фёдаравіч.

Чмыхнуў і Балатовіч, але ўбачыўшы, што вочы ў Настыркі ўставіліся ў адну кропку, у пераносся Фёдаравіча, выправіў сітуацыю.

— Фёдаравіч, ты, можа, Юру тармазную трубку пазычыш?

Успомніў і Настырка, што заўтра трэба ехаць да цешчы, што Новы год без свежаніны...

— Мо, Фёдаравіч, сапраўды дасі, вярну пасля святаў, — папрасіў Юра.

— А чаму і не даць!

— Ваня, давай яшчэ пляшку. Плачу, — сказаў Настырка і палез у кішэню па грошы.

— Ты, Юра, не злуйся. Я гэтых франтоў, ведаеш, колькі прайшоў?.. Плячо, бачыш, як вывернула? — і Фёдаравіч варухнуў левым перакошаным плячуком.

Настырка працягнуў руку.

— Я ўсё разумею, прабач, калі што!

Тут і Балатовіч падтрымаў.

— Каб было чаго сварыцца? Хаця, Юра, я табе праўду скажу: адны мы не выжывем. Адкуль мы гэты ток возьмем? Скажы, што свяціць і грэць будзе? — Балатовіч кіўнуў на пяцісотватную лямпу, каля дзесятка якіх ён прывёз з калгаснай фермы — там імі абагравалі парасят.

Настырка хацеў паспрачацца, але перадумаў і чмокнуў Фёдаравіча ў шчаку:

— Чаго тут?

Яны ўзялі яшчэ адну бутэльку, астаткі закускі і пайшлі ў гараж да Стапарчука, а Балатовіч дастаў з-пад рыззя скрыначку, уставіў у разетку вілку, і дыск лічыльніка таркануўся і закруціўся справа налева. Пстрыкнуў выключальнік, і ў цемнаце чулася толькі, як нутрыі хрумстаюць буракі.

А гараж Фёдаравіча быў прыадчынены. На капоце аўтамашыны стаяла бутэлька. Настырка і гаспадар стаялі перад картай Савецкага Саюза і штосьці адзін аднаму даказвалі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# «БЕЗ 70 ТЫСЯЧ МІЛЬЁН»

## МАЮЦЬ ДВА «МОЦНЫЯ» ПЕНСІЯНЕРЫ Ў ГЛЫБОЦКІМ РАЁНЕ. ЦІ МІНАЮЦЬ ІХ НЯСТАЧЫ ГЭТЫХ ГАДОЎ?

**Артыкул «Міхалевічаў двор» напісаў больш чым два гады назад. Расказваў у ім пра вясковую сям'ю пенсіянераў, іх жыццё, дзяцей, гаспадарку. Пасля гэтага не раз давялося праязджаць па шашы Полацк—Вільня каля вёскі Карабы ў Глыбоцкім раёне. Жывуць яны тут, зусім побач. Але наведаць колішніх сваіх герояў усё не выпадала. Едучы аўтобусам, не сыдзеш, а падарожнічаеш на машыне — час непрыдатны, не хочацца турбаваць гаспадароў. Але аднойчы, вяртаючыся з камандзіроўкі, вырашыў наведаць Марыю Дзям'янаўну і Мікалая Міхайлавіча Міхалевічаў спецыяльна. Па нашым часе два гады — тэрмін немалы, змены адбываюцца цяпер імкліва. А як жа цяпер жывуць пенсіянеры? Што новага?**

Тут трэба вярнуцца на два гады назад і заўважыць, што пісалася тады пра жыццё пенсіянераў лёгка, з немалой доляй радасці за іх: жывуць усё-такі па нашых часах няблага, а пры нашых вясковых невялікіх патрабаваннях дык нават і добра. І вось цяпер пільна прыглядаўся, распытваў: ну, як вы? І пераканаўся: Міхалевічы, калі можна так сказаць, «моцныя» пенсіянеры, іх нястачы апошніх гадоў абмінаюць. І найперш дзякуючы ім самім. Мяркуйце самі.

Пенсіі на двух чалавек сям'я атрымлівае «без 70 тысяч мільён». Гэта выраз самога гаспадара, бачна было, што яму прыемна прамаўляць само слова «мільён», хаця аб сапраўднай вартасці гэтай сумы ён не можа не ведаць. Прычым ён, ветэран вайны, мае пенсію крыху нават меншую, чым яна — і ў мінулым і цяпер нястомная працаўніца. Але пенсія пенсіяй, а ў Міхалевічаў жа яшчэ гектар зямлі, жывёла, сад. Тыя ж яблыкі, здадзеныя на Падсвільскі вінзавод, далі ў сямейны бюджэт пэўную суму. І цяпер, у кастрычніку, у калгас аддаюць Міхалевічы 12 літраў малака, летам было, вядома, больш. Гэта таксама капейка. Ёсць і яшчэ нейкія дабаўкі ў бюджэт. А выдаткі? Яны пры той гаспадарцы, якая ў Міхалевічаў, у асноўным на «крамнае», тое, што не вырасціш, не выгадуеш. Так што грошай хапае. Нават каб дзецям дапамагчы. Як я ўжо пісаў мінулы раз, дзеці ў кожнага свае, таму і дапамагаюць ім паасобку. Ездзіў сёлета Мікалай Міхайлавіч да сына жонкі, якраз на час апаросаў (той у Расіі стаў фермерам, трымае свіней). Паглядзеў на свет, параўнаў тое жыццё і сваё. Не скардзіцца.

Нават адмена льготаў сям'ю закранула нязначна. Тут справа зразумелая: ён — ветэран вайны і таму захаваў правы. А Марыі Дзям'янаўне цяпер даводзіцца плаціць, каб даехаць да Глыбокага, некалькі соцень рублёў.

Аб дастатку ў сям'і Міхалевічаў мог меркаваць і па тым, як гаспадыня хутка сабрала на стол для госця. Гасціннасць гэта шчырая, адмовіцца ад яе немагчыма. Нічога незвычайнага не было, але і бульбачка, і яечня са скваркай, і кавалак кумпяка, пакінуты для гасцей ды на свята, знайшліся.

А вось калі сядзелі за сталом і размаўлялі больш павольна, удумліва, высветлілася, што нейкія зрухі ў параўнанні з тым, што было два гады назад, усё-такі ёсць. Няцяжка выявіць, што галоўны стрыжань, на якім трымаецца дабрабыт сям'і Міхалевічаў, гэта дзве кароўкі. Яны не толькі пояць-кормяць, даюць капейку за здадзенае малако. Сёлета гаспадыня шчодра дзялілася малаком з некаторымі суседзямі. За дапамогу. Бо без яе старым ужо цяжка абыходзіцца. Увогуле ж Марыя Дзям'янаўна зазначае: «Буду збываць кароў. Цяжка. Нават на пашу вадзіць за два кіламетры. Калгас траву нам скасіў, дзякуй за гэта. Але ж усё астатняе трэба самім. Не, цяжка. Буду збываць». А гаспадар успомніў і пра электрапастуха, на які давялося даваць грошы.

Развітаўшыся з гасціннымі і шчырымі гаспадарамі, падумаў, што Міхалевічы ўсё-такі жывуць яшчэ адносна добра для нашай вёскі, належаць да своеасаблівай яе эліты. Крыху падточваецца іх дабрабыт, але гэта ўжо ад страты сілы, ад таго, што ў далейшым гаспадарка будзе няўмольна скарачацца. Ну, а як павядзе сябе дзяржава ў адносінах да іх — пакажа час.

Расказаўшы пра гэту, напэўна, не зусім тыповую сям'ю, я не мог не пацікавіцца ў сельскім Савеце тым, а як жа ўвогуле жывецца пенсіянерам у Карабах і наваколлі? Старшыня выканкома Карабоўскага сельскага Савета Марыя Аляхновіч пагадзілася, што Міхалевічы сапраўды «моцныя» пенсіянеры. Але такіх значна менш. У большасці ж, напрыклад, адмена льгот выклікала немалыя цяжкасці. Бо электрычнасць-паліва-газ, калі становяцца яны платнымі, выклікаюць немалыя праблемы. Асабліва няпроста зараз тым пенсіянерам, хто мае 80 і больш гадоў, ужо не мее сілы трымаць жывёлу, апрацоўваць зямлю (пенсіі ў іх, дарэчы, таксама самыя мінімальныя, ды і затрымлівацца пачалі яны, часам да месяца). Марыя Іванаўна гаворыць:

— Па праграме «Клопат» у нас абслугоўваюцца 80 чалавек, гэта самыя нямоглыя, абяздоленыя. І тут вялікі дзякуй трэба сказаць усім тром калгасам, што на тэрыторыі савета. Выдзяляюць бясплатна пенсіянерам малако, па 200 кілаграмаў бульбы, па льготных цэнах зерне, нешта іншае. Нешта ўжо ёсць для жыцця. Але ж гэта самы мінімум. Таму старым, асабліва адзінокім і саслабелым людзям на вёсцы жывецца сёння вельмі цяжка.

А мне вось што падумалася: не асаблівы прыхільнік калгасаў у іх цяперашнім выглядзе, яшчэ раз пераконваюся, што іх прымусовага разгону ці рэзкага, таксама ж прымусовага, рэфарміравання дапускаць ні ў якім разе нельга. Старыя людзі на вёсцы тады страцяць вельмі многае. І не толькі тэхніку за сімвалічную цану, каб апрацаваць свой надзел, не толькі тыя літры і кілаграмы, што даюцца бясплатна па форме, а на самай справе як мізэрная кампенсацыя за тыя гады, калі яны працавалі «за палачкі», — нішчымныя працадні. Ёсць і шмат іншай, непрыметнай адразу падтрымкі, што ідзе ад калгасаў. У тых жа Карабах, калі захварэе стары, можа ён спадзявацца, што ў бальніцу яго даставяць бясплатна. Нават у далёкі Віцебск, калі спатрэбіцца.

Так што рэформу на вёсцы, калі і пачынаць, то толькі са стварэння магутнай сацыяльнай службы.

**Алесь КАСЦЕНЬ,**
Віцебская вобласць.

У вясковым магазіне: рыхтуй сані летам, а боты — зімой.
Фота Сяргея ВАСІЛЬЕВА.

